# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 26 (1165) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 25 ЧЭРВЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.


Новыя вершы

### ШЧЫРАСЦЬ

— Мама,
каб пераўтварыцца можна
было
напрадвесні,
якою хацела б быць птушкай —
гускаю ці амялушкай?

— Песняй.

— Зімаваць ці лётаць у вырай?
— Шчырай...

Я пытаюся: птушкай —
аседлаю, пералётнай,
лясною, балотнай,
палявою, чаротнай?

— Народнай...
— Аляпкай?
Яна пад вадой і на сушы!
— Ты і без крылцаў дужы.

— Мама, а ўсё-ткі:
птушкі гэтак высока...
Ты жураўліха ці соўка?
— Слоўка...

**Данута Бічэль-Загнетава**

З прэпарцёрскіх запісак

## ПРА ТЫХ, ШТО ВЫБРАЛІ СМЕРЦЬ



*Дзот над Бугам за вёскай Машчона Каралеўская, у якім савецкія воіны ў чэрвені 1941 года бараніліся не менш як тыдзень часу. Ля дзота палкоўнік З. Паўлік з Музея войска ў Беластоку.*

Гэтыя дзоты раскінуліся ўздоўж надбужскай даліны.

Нас найбольш цікавіць адзін з іх — той, што знаходзіцца на ўзгорку за вёскай Машчона Каралеўская. Цікавіць таму, што ў ім пад жалезабетоннымі глыбамі яшчэ па сённяшні дзень пакояцца астанкі тых, што выбралі смерць, каб не пайсці ў палон.

* * *

Кажуць, што было іх 18. Пераважна афіцэры.

Язэп Капелька, жыхар вёскі Машчона Каралеўская, гаворыць з поўным перакананнем, што ў дзоце пад лесам баранілася 17 лейтэнантаў і адзін капітан.

— Гэта мне расказваў, — паясняе ён, — адзін мясцовы чалавек, па прозвішчу Кузавінскі, які тады служыў тут у Савецкай Арміі і ў гэтую памятную ноч з суботы на нядзелю 22 чэрвеня 1941 года якраз стаяў на варце ля таго ж дзота, то бачыў, што ўваходзіла ў яго 17 лейтэнантаў і адзін капітан. Усе хлопцы маладыя, толькі што са школы, на тры дні раней прыехалі ў ваенны гарадок, які тады знаходзіўся ў лесе за нашай вёскай, прыехалі на практыку і яшчэ не паспелі размеркаваць іх па часцях.

* * *

У папярэдні дзень, у суботу, камандаванне ваенгарадка наладзіла вясёлыя гульні. Салдаты і цывільныя рабочыя цяжка працавалі пры пабудове добра прадуманай надбужскай абароннай лініі. Работы яшчэ аставалася шмат. Дзень і ноч безупынку грукаталіаграмадныя крушылкі камення, задыхаліся бетоназапраўчныя агрэгаты, ад станцыі Сямяцічы і ад станцыі Высокае грузавікі пастаўлялі сотні тон розных матэрыялаў. Дзоты ўжо тырчэлі над зямлёй, але яшчэ аніводзін з іх не быў поўнасцю прыстасаваны да функцыі, якая ім вызначалася.

У суботу пасля абеду і ў нядзелю людзі мелі адпачыць, пагуляць, паглядзець фільм.

* * *

Анна Датчук была тады прыгожай дзяўчынай, да якой заляцаліся нават афіцэры.

— Нас запрасілі на фільм, — успамінае яна. — Звычайна цывільных людзей не прапускалі ў ваенны гарадок. Аднак афіцэры бралі нас пад ручку,

**(Працяг на стар. 4)**

## ТРЭБА БОЛЬШ І ЛЕПШ!

Ужо лета. Культурна-асветны сезон 1977/78 года ў дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў асноўным закончыўся. Праўда, у шэрагу гмін адбываюцца фэстыны, і на іх выступаюць аматарскія калектывы БГКТ з багатымі праграмамі, але яны складаюцца якраз з таго, што было апрацавана і падрыхтавана за апошнюю восень і зіму або яшчэ раней. І таму, здаецца, настаў час паразважаць не толькі аб здабытках, але і аб промахах у гэтай дзейнасці ды прыгадаць тыя яе загоны, а нават цэлыя абшары, што ўсё яшчэ ляжаць удзірванелым аблогам. А разважаць ёсць аб чым! Бо БГКТ пры садзеянні іншых арганізацый правяло сёлета не мала цікавых мерапрыемстваў, і ўсе яны былі вельмі карысныя для ажыўлення культурнага жыцця ў нашым асяроддзі. Але затрымайма нашу ўвагу на пяці вядучых сярод іх.

Чытальніцкі конкурс „Знаёмімся з сучаснай беларускай літаратурай“ вельмі спрыяў папулярызацыі творчасці аўтараў, якія ў Народнай Польшчы пішуць на беларускай мове. Прыняло ў ім удзел звыш 400 асоб — лік як на нашыя ўмовы не такі ўжо і малы. Фінальны розыгрыш конкурсу, у якім выступілі калектывы вучняў з беларускіх ліцэяў Бельска і Гайнаўкі, стаў праўдзівым спаборніцтвам у валоданні фактамі і майстэрстве аналізаваць літаратурныя творы. Гэта радуе. Але не можа прыкрыць таго непрыемнага факту, што падчас трывання конкурсу нашыя „белавежцы“ зусім не паклапаціліся, каб правесці як мага болей аўтарскіх сустрэчаў, асабліва ў тых мясцовасцях, дзе неабходна ўзбудзіць большае зацікаўленне творчасцю на беларускай мове, пашырыць чытальніцтва беларускіх кніг і часопісаў. Праўленне „Белавежы“ не паклапацілася пра тое, каб уручыць пераможцам конкурсу спецыяльныя дыпломы ад літаратурнага аб'яднання, а ўсім фіналістам — камплекты выданняў нашых аўтараў з іх аўтографамі, не падумала таксама аб падзяцы настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Гайнаўскага беларускага ліцэя, калектыў якога перамог у конкурсе.

Традыцыйна ўжо багатыя паказы „Беларуская песня“ для дарослых і для школьнікаў сёлета зноў выявілі і шэраг новых спявачых талентаў і вынеслі на сцэну многа новаадкрытых народных песень Беласточчыны і твораў беларускіх савецкіх кампазітараў. Абодва конкурсы — гэта дні вялікага свята нашых родных напеваў, захапляючага сваёй чароўнасцю свету. І аж крыўдна, што мы не імкнемся абодва конкурсы яшчэ больш наблізіць да людзей, расшырыць іх. Неабходна знаходзіць і заахвочваць да ўдзелу ўсё

**(Працяг на стар. 2)**

## АБНАЎЛЯЮЧЫЯ ДНІ



На пераломе мая і чэрвеня Бельск перажывае сваё праўдзівае абнаўленне. І то не толькі таму, што тады яго агароды, сады, скверы затапляюцца свежай зелянінай і пышным квеццем. У гэтым часе адбываюцца **Дні Бельска**, і старажытны горад над ракою Белай забывае пра свой звыштысячагадовы ўзрост.

— Мы ўжо трэці раз праводзім Дні нашага горада, — заўважае сакратар гарадскога камітэта ПАРП **Мікалай Хурса**. — Упершыню яны адбываліся ў 1976 годзе. Тады мы імкнуліся разбудзіць наша грамадства да актыўнейшай культурнай дзейнасці. Не прыходзіла гэта лёгка — усе трымаліся надта ж паважна, нацягнута, холадна. Нават моладзь не патрапіла выявіць сваю жыццерадаснасць, маладосць. Але лёд абыякавасці паволі плавіўся ад растучай тэмпературы жадання дзейнічаць для дабра свайго горада, ад разбуджанай грамадскай ініцыятывы, ад канкрэтнай работы на шэрагу напрамках. І сёння можам з упэўненасцю сказаць, што Дні Бельска пачынаюць апраўдваць сябе.

Гэта відаць усюды. Паўстаўшае ў 1975 годзе Таварыства прыяцеляў Бельска ўсё шырэй разгортвае сваю дзейнасць. Яно згуртавала значную колькасць людзей, зацікаўленых вывучэннем гісторыі горада і рэгіёна. Па яго ініцыятыве ў колішняй гарадской ратушы закладзены пачаткі рэгіянальнага музея, які паводле яго арганізатараў павінен з бегам часу стаць сапраўдным захавальнікам скарбаў гісторыі і культуры Бельскай зямлі і адначасова звяном, аб'ядноўваючым адлеглае мінулае з сённяшнім днём. У справу пошукаў экспанатаў побач з дарослымі ўключылася гарцэрская моладзь. Шэраг дакладаў, з якімі выступілі перад бяльчанамі настаўнікі гісторыі мясцовых сярэдніх школ, навуковыя працаўнікі беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта і беластоцкія этнографы, ажывілі зацікаўленне жыхароў багатым мінулым іх горада, уваскрасілі гераічныя яго старонкі, прыгадалі многія постаці выдатных бяльчан. Гэта дае магчымасць усім выразней бачыць дасягненні і здабыткі цяперашняга часу: развіццё эканомікі, асветы, культуры, жыллёвага будаўніцтва ў горадзе. А гэта мабілізуе людзей да канкрэтнай працы.

**(Працяг на стар. 4)**

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА**

## Зэльвенскія ўзоры

Здаецца, што ў невялікім пакоі загадчыцы ткацкай вытворчасцю Г. М. Бародзіч раптам заяснелі ўсе барвы вясёлкі. Галіна Мікалаеўна паказвае новыя вырабы зэльвенскіх ткачых. Колькі розных колераў, адценняў, узораў!

...У цэнтры дывана быццам жывыя букеты півоняў, на лямоўцы — чырвоныя ружы. Гэта вынік вялікай працы, бо кожны дыван вытканы з 30 тысяч вузялкоў. Прыгожы яскравыя накідкі на крэслы і канапы.

Усяго чацверты год дзейнічае ткацкая вытворчасць Зэльвенскага бытавога камбіната, а слава пра яго майстрых разышлася далёка па-за межы раёна. Галіна Мікалаеўна паказвае лісты з Украіны, Казахстана, Прымор'я. У іх адна і тая ж просьба: зрабіць дыван, накідку, пакрывала.

— Заказаў маем вельмі многа. Асабліва вялікі попыт на дываны, — кажа Бародзіч.

У вытворчасці працуе звыш 100 ткачых. У мінулым годзе першынства ў спаборніцтве здабыла Н. К. Кіслова. Яна займаецца ткацтвам ужо больш 15 год.

— Я маю праўдзівае задавальненне выткаць дыван, — кажа Надзея Казіміраўна.

І гэта не проста словы, Н. Кіслова — вялікі мастак сваёй справы.

Старанна працуюць таксама ткачыхі Л. К. Ганчар, Е. В. Худабед, В. Б. Свістун, А. І. Баннікава і многія іншыя. Некаторыя пабывалі на Омскай дывановай фабрыцы, на месцы вывучылі вытворчасць, пазнаёміліся з вопытам лепшых майстрых. Шмат каштоўнага перанялі і ад працаўнікоў Віцебскага дывановага камбіната.

— Устанаўліваем у цэху механічныя станкі АТ-120 і АТ-175, — расказвае Галіна Мікалаеўна. — Плануем пачаць выпускаць вырабы з нітрону.

Зэльвенскія ткачыхі вучацца самі і дзеляцца сваім майстэрствам з іншымі. Тут, напрыклад, вучыліся працаўнікі нядаўна створаных ткацкіх цэхаў з Ваўкавыска і Свіслачы.

У мінулым годзе было паспяхова выканана вытворчае заданне. Звыш плана выпушчана вырабаў на многія тысячы рублёў. У бягучым годзе асвойваюцца новыя віды прадукцыі, распрацоўваюцца маляўнічыя праекты дываноў, пакрывалаў і накідак.

**Я. Флякс**

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**115 гадоў назад**

27 VI 1863 быў павешаны на Лукішскай плошчы ў Вільні Зыгмунт Серакоўскі, ваенны начальнік паўстання ў Літве. Імкнуўся аб'яднаць рух літоўскіх сялян з беларускімі атрадамі К. Каліноўскага.

**110 гадоў назад**

25 VI 1868 нар. Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі), беларускі пісьменнік, адзін з пачынальнікаў беларускай прозы.

**50 гадоў назад**

25 VI 1928 адкрыўся I з'езд Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

**45 гадоў назад**

1 VII 1933 быў заснаваны Беларускі палітэхнічны інстытут.

**10 гадоў назад**

1 VII 1968 у Маскве, Вашынгтоне і Лондане пачалося падпісанне Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

******************************

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

******************************

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. nr 1355. 7.600 egz. N-4





*„ТРУБЫ СТАМІЛІСЯ“. Удзельнікі духавога аркестра сярэдняй школы № 5 горада Гродна пасля выступлення на свяце духавой музыкі. Фота В. Косціна.*

(Працяг са стар. 1)




большую колькасць новых выканаўцаў, шукаць спявачых талентаў у неспазнаных яшчэ ваколіцах, увесці новыя формы ўзнагарод для пераможцаў: узнагароду публікі, экскурсію ў цікавыя мясцовасці краіны і г.д. У файе ці калідорах памяшканняў, дзе адбываюцца раённыя і фінальныя элімінацыі конкурсу, аж напрошваюцца розныя, большыя ці меншыя, выстаўкі аб дзейнасці БГКТ, прац народных умельцаў, работ беларускіх мастакоў і таму падобныя экспазіцыі. А паказаць жа маем што!

Упершыню праведзенае ў бягучым годзе праслуханне народных музыкаў і аркестраў пераканала, што мы пачалі, нарэшце, варушыць некранутую дагэтуль дзялянку, якая абяцае быць не менеей ураджайнай адкрыццямі і знаходкамі, чым конкурс беларускай песні. Няма сумнення, што неўзабаве, апрача гармоніка і скрыпкі, убачым на ім розныя дуды, свісцёлкі, цымбалы і іншыя даўнія народныя інструменты і пачуем не толькі полькі ды вальсы, але і колішнія беларускія круцёлкі, крыжачкі, мяцеліцы і мноства іншых прызабытых ужо беларускіх народных мелодый. Але не забывайма пра самых таленавітых удзельнікаў гэтага конкурсу, ім трэба даваць магчымасць паказваць сваё выканаўчае майстэрства на фэстынах і іншых урачыстасцях.

Сёлетні агляд тэатральных калектываў не парадаваў вялікай колькасцю ўдзельнікаў, бо было іх ўсяго чатыры, але затое якіх! Моладзь Бельскага беларускага ліцэя паказала падрыхтаваную пад кіраўніцтвам сваёй настаўніцы В. Рышчук і працаўніцы Бельскага дома культуры В. Андрэюк п'есу сучаснага беларускага савецкага пісьменніка І. Шамякіна „Не верце цішыні“. Сыграла яе ўдала, даказваючы яшчэ раз, што не толькі ў песні, але і ў пастаноўках п'ес нашы ліцэісты — народ здольны і ахвочы да працы. Тэатральны калектыў беластоцкага гуртка БГКТ, ставячы дасканалы фарс І. Лафінай „Бацькоўскае благаслаўленне“, выявіў вялікія здольнасці ў паказе камедыйных персанажаў. Ну і пакарылі ўсіх сваімі вадэвілямі з народнага жыцця калектывы з Меляшкоў і Арэшкава. Гэта былі цудоўнейшыя рэчы! Якраз гэта нам і патрэбна: спалучаныя ў непадзельнае адзінства сакавіты народны гумар з народнай песняй, а ўсё гэта паказана натуральна і на мясцовай гаворцы. Такім чынам само жыццё паказвае нам, што ў аматарскім тэатры наша арганізацыя мае неабмежаваныя магчымасці дзеяння, толькі мусіць паклапаціцца пра разбуджэнне да працы розных асяроддзяў: школьнай моладзі, старэйшых сялян, гараджан і запрапанаваць адпавядаючыя іх зацікаўленням віды і роды пастановак. Не трэба прымушаць вясковых аматараў ставіць класічныя драмы, калі ім ляжыць на сэрцы, напрыклад, народны вадэвіль „усяму вінавата нявестка“, а гарадскіх самадзейнікаў спяваць вяснянкі ды паказваць сварку дзвюх суседак за яйкі.

Нельга нам спачываць на дасягнутым і ўвесь час трэба шукаць новых абшараў, неадкрытых крыніц і нескарыстаных магчымасцей для далейшага развіцця нашай культурна-асветнай дзейнасці. Перш за ўсё неабходна клапаціцца пра чысціню нашай беларускай мовы, і вельмі добрай формай у гэтай справе быў бы дэкламатарскі конкурс для дарослых і для моладзі па паэзіі і прозе самых выдатных беларускіх пісьменнікаў. Як вядома, беларусы любяць не толькі спяваць, іграць ды прадстаўляць, але і танцаваць. Таму нельга адкладваць надалей арганізаванне штогадовага агляду беларускага народнага танца. Вельмі ж добра павялося ў нас, што ў часе конкурсаў ці аглядаў іх удзельнікі імкнуцца выступаць на сцэне ў спецыяльных касцюмах, даўніх або цяперашніх. Здаецца, што ўжо можна аб'явіць конкурс (з цікавымі ўзнагародамі для пераможцаў) на жаночыя і мужчынскія беларускія народныя падляшскія касцюмы. Якраз такі конкурс даў бы падставу да абсталёўвання і пашыву касцюмаў для нашых калектываў. Напрошваецца таксама... Так, вельмі многа ўсяго нам трэба, таму пра справы фальклору, матэрыяльнай культуры, будаўніцтва і г.д. можа ўдасца мне паразважаць у наступных артыкулах. Сённяшні хачу закончыць перакананнем, што робім мы ўсё ж многа і добра, але мусім рабіць яшчэ больш і лепш; бо вядома: развіццё нашай нацыянальнай культуры залежыць ад нас саміх.

**Мікалай Гайдук**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Фэст у Мокрым ● Белкі ● Дзядзька Максім захапляецца рускімі песнямі ● Літаратурная старонка ● Наваполацк ● З маёй званіцы ● Весткі з Заблудава, Гайнаўкі, Збуча, Нарвы, Юхноўца, Рудут, Войнаўкі, Дубіч Царкоўных, Белавежы, Чаромхі, Шчытоў ● Фота-рэтра ● Як чысціць дываны і мяккую мэблю ● Калі сніцца гітара ● У доктара Знахарука ● Песня „Bliska moim myślom“.**




**Sobota 24 VI** — 10.00 Dziewczyny lubią piosenki — czech. kom. muz. 14.40 Pr. dnia. 14.45 Radar. 15.00 Radzimy rolnikom. 15.10 Dziennik. 15.20 Obiektyw. 15.40 Latarnia czarnoksięska. — 16.10 Fedra — ameryk.-grecki film fab. 18.00 Sobotni koncert Studia Gama. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 19.55 Mundial 78 — trans. meczu o trzecie miejsce. 22.00 Mała antologia kabaretu. 23.10 Dziennik. 23.25 O człowieku, który malał — dramat sens. USA.

**Niedziela 25 VI** — 7.25 Now. w domu i zagr. 7.50 RTSS. Nasze spotkania. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Kino Teleranka. Lato z Kasią — III odc. ser. czech. 9.25 Antena. 9.50 Przez lądy i morza — film dok. wł. 10.40 Z kamerą wśród zwierz. 11.10 Dziennik. 11.25 Rolnicze rozmowy. 11.55 Symfonia leningradzka — widowisko muz. 12.55 Piórkiem i węglem. 13.20 Klub Sześciu Kont. 14.10 W Starym Kinie. 15.10 Los. Dużego Lot. 15.25 Tele-Echo. 16.25 Opole 78: Kabaret „Kur”. 17.15 Sport: trans. drugiego dnia trójmeczu lekkoatl. ZSRR—NRD—Polska. 18.30 Wieczorynka. 19.00 Dziennik. 19.50 Mundial 78 — trans. finału Mistrz. Świata w p. nożnej. 22.25 Panie na Mogadorze — film TV franc.

**Poniedziałek 26 VI** — 9.30 Mundial 78. 13.25 Pr. dnia. 13.30 Melodie. 14.00 Magazyn lotniczy. 14.30 Palec boży — dramat obycz. pol. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie. 17.30 Klub kibica. 17.45 Dom i my. 18.00 Nasi kochani bliźni — odc. VI ser. NRD. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV na świecie. O. Wilde „Brat marnotrawny”. 22.20 Poradnik zmotor. turysty. 22.30 Camerata. 23.00 Dziennik.

**Wtorek 27 VI** — 10.00 Panie na Mogadorze — film TV franc. 13.10 Pr. dnia. 13.15 Melodie. 13.45 Klub Seniora. 14.15 Kino Lektur: Szlacheckie gniazdo — dramat obycz. radz. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Mł. 17.10 Polska leży nad Bałtykiem. 17.50 Sygnały filmowe. 18.20 Człowiek i przyroda — film dok. TV hiszp. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Saga rodu Palliserów — odc. XXIV ser. 21.25 Poradnik zmotor. turysty. 21.35 Studio — 5. 22.35 Dziennik. 22.50 Teatr Małych Form.

**Środa 28 VI** — 14.15 Pr. dnia. 14.20 Melodie. 14.50 Ring wolny — fab. film CSRR. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Kino najmłod. 17.00 Historia na każdej ulicy. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Nie tylko dla kobiet. 18.15 Kółko i krzyżyk. 18.30 W Starym Kinie. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Filmy z Brigitte Bardot: Życie prywatne — dramat obycz. 22.20 Poradnik zmotor. turysty. 22.30 Dziennik. 22.45 Kształt słowa.

**Czwartek 29 VI** — 10.00 Jakub — dramat obycz. czech. 13.30 Pr. dnia. 13.55 Melodie. 14.05 Kto czyta nie błądzi — magazyn inf. 14.35 Polonez Ogińskiego — dramat woj. ZSRR. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie. 17.30 Reportaż wojskowy. 17.55 Kirdi i Daba — film F. Burdzego. 18.15 Sonda. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Człowiek w czapce — odc. ser. fr. „Brygady Tygrysa”. 21.30 Poradnik zmotor. tur. 21.40 Pegaz. 22.05 Dziennik. 22.40 W minutę po premierze.

**Piątek 30 VI** — 14.40 Pr. dnia. 14.45 Melodie. 15.15 Drużba znaczy przyjaźń — pol. film dok. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie dla najmłod. 17.10 Rycerze stepu — cz. I. 18.30 Magazyn motor. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Koty to dranie — film obycz. 21.35 Poradnik zmotor. tur. 21.45 Mity i rzeczywistość: Lądowanie w Australii — film dok. NRD. 22.15 Dziennik. 22.30 Proscenium.




**Piątek 23 VI** — 8.40 Film fab. 18.20 Spektakl.

**Sobota 24 VI** — 9.55 Film fab. ser. 1 część. 12.40 Koncert. 15.15 W świecie zwierząt. 17.15 Film anim. 17.45 Film fab. ser. 20.30 Mistrz. świata w p. nożnej. 22.15 Pr. estrad.

**Niedziela 25 VI** — 7.55 Koncert. 10.00 Film fab. ser. 14.30 Panorama międzynar. 15.00 Filmy anim. 16.00 Film dok. 17.15 Spektakl. 19.00 Klub film. 20.30 Mistrz. świata w p. nożnej.

**ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!**

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).




**Białowieża** Miłość Adeli H. — fr. 27—28 VI. Pocałunki z Honkongu — fr. 29—30 VI. Czy Lucyna to dziewczyna — pol. 1—2 VII.

**Bielsk Podl.** Wezwij mnie w świetlistą dal — radz. 26—27 VI. Czarny korsarz — wł. 28—29 VI. Złoto dla zuchwałych — jug. 30 VI—1 VII.

**Czeremcha** Uzurpatorzy — węg. 27—28 VI.

**Czyże** Intryga rodzinna — USA. Tata ja już wyszłam za mąż — pol. 28 VI—2 VII.

**Dubicze Cerk.** Skazany — pol. Wielki łup gangu Olsena — duń. 28 VI—2 VII.

**Gródek** Akcja pod Arsenałem — pol. 1—2 VII.

**Hajnówka** Cień zbrodni — buł. 26—27 VI. Maratończyk — USA 28—30 VI.

**Michałowo** Dziewczyna do dziecka — ang. 27—28 VI. Kobietki — radz. 29—30 VI. Mistrz rewolweru — USA 1 VII.

**Mielnik** Kariera na zlecenie — fr. 28 VI. Złotodajna rzeczka — radz. 1—2 VII.

**Milejczyce** Akcja pod Arsenałem — pol. Smic, smac, smoc — fr. 28 VI—2 VII.

**Narew** Błękitny ptak — radz. Gwiazda zwodniczego szczęścia — radz. 28 VI—2 VII.

**Narewka** Cień zbrodni — buł. Szarada — pol. 28 VI—2 VII.

**Nurzecz** Ostatni wiosenny śnieg — wł. 27—28 VI. Rozumiemy się bez słów — czes. 29—30 VI.

**Orla** Barwy ochronne — pol. Zaufanie — radz. 28 VI—2 VII.

